# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 20 (1055) ГОД XXI 16 МАЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


Новыя вершы

## АДАМ МІЦКЕВІЧ У ТУГАНАВІЧАХ

*Туганавічы... Туга —*
*І растанні і прадчуванні!*
*Каштанавым цветам ранне*
*Стары абсыпае курган.*

*Дапытліва Маладосць*
*Удалеч глядзіць...*
*Трывожна*
*Ад гэтай смугі прыдарожнай,*
*Што ціш працінае наскрозь.*

*Запал ліхаманіць кроў...*
*У словах паэтавых — дзіўна —*
*Адна і другая радзімы,*
*І першая ў іх любоў.*

*Туганавічы...*
*Туга*
*Кахання яго і прадвесця!*
*Над тым, што чакае дзесьці*
*У полі вячэрнім — смуга*
*Разносіцца...*
*Ды зямля,*
*Пакутная і нямая,*
*Беларужовым маем*
*У сны яго прыйдзе пасля!*

**Вольга Іпатава**

VIII З'ЕЗД БГКТ

БАНК ДУМАК

# АБ ПАТРЭБЕ НАВУКОВАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

Навука выкрывае і раз'ясняе самыя складаныя і не ўсім зразумелыя з'явы нашага жыцця. У цяперашнім свеце адыгрывае яна галоўную ролю ў стымуліроўцы прагрэсіўнага і пастаяннага развіцця нашага грамадства.

Якімі ж дасягненнямі ў галіне навукі адзначае сваё дваццацігоддзе БГКТ?

На жаль, скромнымі. Бо два навуковыя зборнікі і навукова-літаратурны зборнік, спалучаны з календаром на 1961 год, што паявіліся за 20 гадоў існавання БГКТ, не могуць быць асновай для аптымістычна-пахвальнай ацэнкі.

БГКТ як арганізацыя ніколі не мела дакладна акрэсленых і далёкасяжных мэт для навуковай распрацоўкі якіх-колеч праблем, выступаючых сярод грамадскіх супольнасцей, у якіх дзейнічала і дзейнічае БГКТ. Навуковую працу ў рамках нашага таварыства распачалі на грамадскіх пачатках і такім жа чынам працягваюць яе надалей людзі-энтузіясты, у якіх праяўляліся натуральныя схільнасці да паказання сваёй актыўнасці ў галіне навукі. Адначасова былі гэта пераважна або актывісты БГКТ, або штатныя працаўнікі таварыства. У першым навуковым зборніку-календары на 1961 год знаходзім наступныя прозвішчы: Г. Анацік, *які піша аб Грамадзе*, П. Кожэц — *пра пачаткі рабочага руху на Беласточчыне*, А. Баршчэўскі — *публіцыстычна-літаратурная спадчына К. Каліноўскага і другі артыкул аб камізме ў творчасці Якуба Коласа*, Ул. Юзвюк — *манаграфічны нарыс аб Гайнаўскім павеце* і М. Гайдук — *аб вуснай народнай творчасці на Беласточчыне.*

У наступным навуковым зборніку, які паявіўся ў 1964 годзе, Ул. Юзвюк працягвае сваю *манаграфію аб Гайнаўшчыне*, П. Кожэц піша *аб рэвалюцыйнай барацьбе крынкаўскіх гарбароў*, А. Баршчэўскі аналізуе *польскія вершы Янкі Купалы*. Адначасова знаходзім тут новыя прозвішчы: В. Склубоўскі — *некаторыя пытанні беларускага нацыя-*

**(Працяг на стар. 4)**

ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"

**Агляд беларускіх тэатральных калектываў ● Пакуль дачакалася спакою ● Фёдар Галёнка ● 1941-1944 г.г. на Беласточчыне ў беларускай энцыклапедыі ● Гродзіск ● Беластоцкае асветнае пісьменства ● Доўбыш з Заставы ● За Трасцянкай з'явіліся чэрці ● Весткі з Бельска, Збуча, Гайнаўкі, Дубіч Царк., Сідры, Волькі Выганоўскай ● Калі сніцца ваш шлюб ● Песня „Wyspa dzieci".**



# ДУБРОВА СЁННЯ І ЗАЎТРА

Дуброўшчына з'яўляецца найлепшым доказам перамен, якія ў гэтым раёне нашай краіны здзейсніліся на працягу кароткага часу. Яе цэнтр (павятовы да новага адміністрацыйнага падзелу краіны) Дуброва — прыгожы сучасны гарадок. Ён схаваны за навакольнымі ўзгоркамі, пакрытымі каменнымі валунамі, быццам у велізарнай талерцы.

У апошнія гады ў Дуброве асабліва шмат пабудавана гандлёвых і паслуговых павільёнаў. І так, вырас прыгожы жыллёвы раён ля вуліц 1000-годдзя Польскай дзяржавы і Паўднёвай. Ёсць тут крамы, паслуговыя цэнтры. Жыхары пасёлка зрабілі пляцоўкі для дзіцячых гульняў, алейкі для шпацыраў. Яны пасадзілі таксама маладыя дрэўцы, аздобныя кустарнікі, шмат розных кветак.

Дагэтуль жыллёвы кааператыў пабудаваў звыш трохсот кватэр і столькі ж збудуе іх у бліжэйшыя гады.

Шырока разгарнулася таксама індывідуальнае будаўніцтва. Будуюцца дамы з цэнтральным ацяпленнем, вадою з крана, з жалезнай агароджай, кветкавым агародчыкам, тратуарам.

У гэтым квартале ў Дуброве будзе аддадзены ў карыстанне найбольшы гандлёва-паслуговы павільён. Разбудоўваюцца базы спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў (СКР) і спулдзельні шматгалінных паслуг.

Жыхары Дубровы спадзяюцца, што яшчэ ў гэтым годзе на рэчцы Каменная будзе перададзены ў карыстанне купальны басейн, а пасля яшчэ будуць добраўпарадкаваны ставы.

У Дуброве будуецца стадыён.

Сюды намерана пераехаць дырэкцыя ПГР з Макаўлянаў. Яна пабудуе тут свой жыллёвы пасёлак і свае адміністрацыйныя будынкі.

Словам, у Дуброве цікавае сёння, а яшчэ больш прываблівае заўтра.

**Я. Цялушэцкі**
**Фота З. Лянкевіча**

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# АЎГУСТОВА

Мінулае Аўгустова, што ляжыць у трох кіламетрах на захад ад Бельска, тоіць столькі загадак, як мала якая іншая мясцовасць на Падляссі.

Спрабуем разгадаць найважнейшыя з іх. Першая — гэта сама назва „Аўгустова", якая ў мясцовай гаворцы вымаўляецца „Ягуштова" або „Егуштова". Гісторыкі і мовазнаўцы паўднёва-ўсходняй Беласточчыны, ідуць тут найлягчэйшай дарогай і прымаюць за чыстую манету мясцовую легенду, паводле якой гэтая вёска займела назву быццам бы ад імя караля Зыгмунта Аўгуста (1548-1572). Прыняць гэтую нічым не абаснаваную казку абазначала б збядніць гісторыю гэтай мясцовасці сама меней на 50 год, калі не болей. Усё паказвае, што радаводу назвы „Ягуштова" ці „Егуштова" трэба шукаць не ў каралеўскім імені, і не ў XVI стагоддзі, а ў іншых крыніцах і значна раней. Яна зыходзіць да эпохі, калі гэтыя землі насялялі балтыйскія плямёны. Іменна ў сучаснай латышскай мове слова „егуозніс" абазначае „невялікую далінку", „упадзіну ў полі", што цалкам адпавядае рэльефу тэрыторыі, на якой ляжыць Аўгустова. Дадайма да гэтага радавод назвы рачулкі Любкі, якая цячэ побач, і, несумненна, паходзіць з літоўскага „лёбас" — „нізіна, нізінны луг", „вузкая доўгая даліна", „даліна", „русла ракі" і г.д., а таксама назву ўрочышча „Жэрэло", якая бярэ свой пачатак калі не ад літоўскага „геркліе" — „горла", дык ад старажытнарускага „жерело" — „крыніца". Успамагае гэтыя меркаванні факт, што на аўгустоўскім полі знаходзяцца дзве „ссыпкі", г.зн. курганы, у якіх паводле мясцовай легенды пахаваны французскія салдаты, што загінулі ў часе нашэсця Напалеона на Расію ў 1812 г. Аднак і палажэнне іх і кераміка, якую там знаходзяць, паказвае, што яны адносяцца да больш адлеглай эпохі. І хто ведае, ці доследы археолагаў не пацвердзяць часам іх яцвяжскае паходжанне. Некалькі год таму назад аўгустаўчанін Аляксей Скарбіловіч ва ўрочышчы Міжгоры вы-

**(Працяг на стар. 4)**

БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76



*Удзельніцы цэнтральнага агляду — народныя спявачкі з Меляшкой. Фота Я. Цялушэцкага.*

## ЛЮДЗІ БГКТ

# НАШЫЯ ДЫРЫЖОРЫ

*Біяграфіі ў іх падобныя. І жыццёвыя шляхі ў іх падобны. Паходзяць яны з беларускіх вёсак, што ў гміне Орля. Абодва яны па прафесіі настаўнікі, якія любяць песню і музыку. Абодва здаўна з'яўляюцца мастацкімі кіраўнікамі харавых калектываў і слаўяць нашу родную песню і музыку. Абодва з'яўляюцца актывістамі БГКТ і выбраны дэлегатамі на VIII з'езд Беларускага таварыства.*

### СЯРГЕЙ ЛУКАШУК



Нарадзіўся ў 1932 годзе. Дзень нараджэння ў яго супадае з днём нараджэння Народнай Польшчы — 22 ліпеня. Пасля заканчэння ў Бельску педагагічнага ліцэя з класамі, у якіх выкладалася беларуская мова, распачаў працу ў пачатковай школе ў вёсцы Галады непадалёк ад Бельска. Там чатыры гады настаўнічаў — вучыў і выхоўваў падрастаючае пакаленне. Калі ў Бельску арганізаваўся харавы калектыў БГКТ і калі мастацкімі кіраўнікамі яго былі Іван Шурбак і Міхась Артышэвіч, Сяргей Лукашук быў акампаніятарам, а ад студзеня 1970 года, працуючы ўжо ў Бельску, дырыжорам гэтага калектыву. Разам з ім выязджаў на канцэрты, фэсты, нават у далёкія мясцовасці. Пазней працуе Сяргей Лукашук у Галоўным праўленні БГКТ на пасадзе культурна-асветнага кіраўніка і многа ўвагі ўдзяляе развіццю мастацкай самадзейнасці ў беларускіх асяродках. Адначасова ўдасканальвае мастацкі ўзровень бельскага харавога калектыву, які назваўся „Васілёчкамі". „Васілёчкі" паспяхова выступалі ў многіх гарадах: Беластоку, Варшаве, Гданьску і ў былым Быдгаскім ваяводстве.

Праз два гады працы ў ГП БГКТ Сяргей Лукашук вяртаецца ізноў да школьніцтва і працуе намеснікам дырэктара пачатковай школы № 3 у Бельску, у якой выкладаецца беларуская мова. Там шмат увагі прысвячае педагагічным справам і мастацкай самадзейнасці ў школе.

Затым назначаюць яго на пасаду дырэктара Дома культуры ў Бельску, галоўным заданнем якога з'яўляецца каардынацыя культурна-выхаваўчай працы ў горадзе Бельску і гмінах былога Бельскага павету. Пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука бельскі дом культуры спецыялізуецца ў распаўсюджванні музыкі. У сувязі з гэтым многія музычныя мерапрыемствы Беластоцкага ваяводства будуць адбывацца ў Бельску.

А з нашым бельскім харавым калектывам зжыўся ён моцна. Да сённяшняга дня працуе з ім.

Выконваючы мноства прафесіянальнай і грамадскай працы, Сяргей Лукашук працягвае завочна вучобу ў вышэйшай музычнай школе ў Варшаве. Ужо хутка будзе абараняць ён сваю дыпломную працу.

### СЦЯПАН КОПА

Сцяпан Копа паходзіць з вёскі Малінікі, якая таксама знаходзіцца ў Арлянскай гміне. Яму цяпер 31 год. З дзяцінства любіў спяваць, хацеў мець гармонік. Калі вучыўся ў сёмым класе, кіраўнік мясцовай школы пераканаў бацьку, што трэба купіць сыну гэты інструмент. І бацька купіў гармонік. Сцяпан быў шчаслівы. Дзень і ноч іграў на ім. Іграў добра. А калі моладзь з Шарнёў папрасіла, каб іграў на забаве, дык усю ноч іграў там за 25 зл. і быў



вельмі задаволены, што пад яго музыку так добра танцуюць маладзейшыя і старэйшыя — удзельнікі забавы.

Вучачыся ў беларускім ліцэі ў Бельску, пазнаёміўся ён з нотамі і іграў у школьным духавым аркестры.

Пасля паступіў Сцяпан Копа вучыцца ў Настаўніцкую студыю на аддзяленне музыкі і спеву, дзе ўжо па-сапраўднаму вывучае гэтыя дысцыпліны. Закончыў НС у 1967 годзе і пачаў працаваць у пачатковай школе ў Трасцяніцы. Потым пераехаў у Гарадок і там сем год працуе ў школе. Тут не толькі займаецца мастацкімі школьнымі калектывамі. Тут стаў ён дырыжорам вядомага на Беласточчыне жаночага хору, з якім многа раз выязджае на канцэрты, захапляючы слухачоў, між іншым, і беларускім песенным рэпертуарам. Ад восені 1974 года жыве ў Беластоку. Працуе ў 22-ой школе настаўнікам музычнага выхавання. У гэтай школе стварыў вакальны калектыў. У памяшканні ГП вядзе курс акардэаністаў. Нягледзячы на тое, што мае шмат рознай працы, знаходзіць час, каб пасля заняткаў у школе паехаць у Гарадок і там праводзіць рэпетыцыі з харавым жаночым калектывам БГКТ.

**М. Х.**

## З-ЗА ПЛОТУ

### У МІХАЛОВЕ СТРАШЫЦЬ!

Так то ўжо ёсць, даражэнькія! Няма таго добрага, якое б на горшае не выйшла. Ужо дзе-дзе, а ў Міхалове, здавалася б, жыць можна. Гарадок невялічкі, ціхенькі, крамы ёсць, рэстаран прыгожы, неўзабаве і вада з кранаў пацячэ. Ды маеш табе! Нячыстая сіла свінню падлажыла. Страшыць пачало. Як толькі сонца схаваецца за небасхіл і ноч пачне наводзіць свае парадкі, дык тады і давай стукаць яна па струнах сваёй чартоўскай балалайкі. Але пачаткова не выходзіла так добра, як цяпер. Не мела яна яшчэ вялікага вопыту, што менавіта і перашкаджала ў разгортванні сваёй нячыстай дзейнасці. Але жыццё ўсяму навучыць. Само падкажа, што рабіць трэба. Так было і тут. Спачатку прапалі з Міхалова ўсе электраманцёры, а потым пагасла святло на вуліцы. Ну, і лепш ужо не трэба. Ці ноч месячная, ці цёмная — хоць у башку смальні, — усё роўна. Спакойна вуліцай не пройдзеш, асабліва, калі вецярок падзьме. Як заскрыгоча, як затрашчыць, як запішчыць — то калі на нагах чаравікі большага размеру, дык так і ведай, што раніцай шукаць будзеш. Што за ліха? Як я і не думаў, як і не хацелася пераканацца, а ўсё ж такі вечарам не адважыўся швэндацца міхалоўскімі вуліцамі. Лепш ужо днём. Ну вось, і ў адзін сонечны дзянёк перанёс я сваё жыццё ў Міхалова. Вышаў з аўтобуса і стаю, разглядаючыся, не ведаючы, куды кінуцца. Ды раптам за плячыма: тра-та-та-та! Так і валасы пайшлі ўгору. Але стаю, не падаючы віду, што спалохаўся, хаця сэрца даўно ў пяткі пабегла. Заціхла. Давай тады памалу назад адварочвацца. І што, думаеце?! Можа, якраз нейкае чучала з віламі прэ. Аднак, на шчасце, не гналася. Але гэта не значыць, што не было. Збоку, у некалькіх метрах ад вуліцы, стаяў, памахваючы ланцугом ды вышчарыўшы ў крывой усмешцы заржавелыя зубы, амаль двухметровы шкілет нейкага страшыдла. Вось, думаю, дзе гэты страх. Вось што палохае жыхароў. А калі так — гэта значыць, усё нармальна. Яшчэ можа нават і заслаба гэты страх наганяе. Тут некаторых міхалоўцаў трэба так напалохаць, каб забылі, на якім свеце жывуць, то можа тады б прыпомнілі, дзе ляжыць прычына страхаў.

Некалькі год назад былы дырэктар гміннага цэнтра культуры Рышард Варабей вырашыў зрабіць нешта карыснае для гэтага невялічкага гарадка, што магло б яго ўпрыгожыць. Відаць, быў чалавекам сур'ёзным, які не любіць пускаць слоў на вецер, і таму адразу прыступіў да ажыццяўлення думкі. Пагаварыўшы з вучнямі мясцовай прафесіянальнай школы, сумесна вырашылі, што ў Міхалове будзе такое, чаго не толькі яго жыхары не бачылі, але і нават навакольныя. І заняліся металапластыкай. З розных частак сельскагаспадарчых машын зманціравалі пяць сімвалічных фігур, якія, размаляваўшы і ўмураваўшы ў бетон, абгарадзілі плотам. Цудоўна ўпрыгожвалі яны невялічкі парк, што знаходзіцца ў цэнтры горада ля скрыжоўкі Беластоцкай і Гарадоцкай вуліц. Але ці доўга? Я ж гаварыў — усё ідзе з поступам. Каму багнэт да касілкі спатрэбіўся, каму плот мяшаў, а хто вось проста так — не маё, дык чаму маю не паламаць! І так „грамадскім" чынам знішчылі паступова тое, чаго самі не рабілі. А цяпер дзіва, што страшыць! Ды тут сапраўды і днём можна спалохацца. Але ці гэта віна металапластыкі? Бо мне здаецца, што не. Тут больш доказаў на дурнаманію.

Хаджу між гэтымі фігурамі і ніяк уцяміць не магу: дзе „Сейбіт", дзе „Скрогат", дзе „Космас", дзе „Поступ і навука", не гаворачы ўжо пра пятую, у якой не толькі назва, але і сама яна прапала. А можа я проста не знайшоў. А з гэтых, што ёсць, адны толькі рэшткі вісяць, спяваючы жаласную песню.

Як відаць, здольныя і заўзятыя людзі ў Міхалове. Нават жалезу не даруюць. А можа б гмінны цэнтр культуры кінуў вокам на гэта...

**М. Шаховіч**

# Аляксандра БЕРГМАН

Належыць да тых людзей, якія цесна звязалі свой лёс з беларускім рэвалюцыйным і нацыянальна-вызваленчым рухам у міжваенны перыяд і даследчай працай над гісторыяй гэтага руху ў пасляваенныя гады.

Аляксандра Бергман (дзявочае прозвішча Кучкоўская) нарадзілася 1 мая 1906 года ў Гродне. У 1923 годзе ўступіла ў рады Камуністычнага Саюза Моладзі. У 1925 годзе з'яўляецца ўжо членам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. У гэтым жа годзе яна ўжо працуе пачаткова ў Вільні, а потым у Брэсце на пасадзе акруговага інструктара КСМЗБ.

У 1927 годзе А. Бергман была нелегальна праз граніцу накіравана ў Мінск на 9-месячны курс у партыйную школу КПЗБ, пасля заканчэння якога вярнулася ў Польшчу і працавала інструктарам у ЦК КСМЗБ. У 1928 годзе як дэлегат ЦК КСМЗБ прымала ўдзел у І з'ездзе КПЗБ.

Ад паловы 1929 па 1931 год знаходзілася ў Маскве, дзе звыш года працавала на маскоўскім электразаводзе і дзейнічала ў партыйнай завадской арганізацыі ВКП(б). У 1931 годзе вучылася ў Міжнароднай ленінскай школе ў Маскве, адкуль была адклікана ў Польшчу і працавала інструктарам ЦК КПЗБ, а потым членам сакратарыята ЦК КПЗБ.

У партыйнай працы пазнаёмілася з вядомым дзеячом КПЗБ Сцяпанам Бергманам, за якога ў 1931 годзе выйшла замуж.

У 1932 годзе прымала ўдзел у нарадзе КПЗБ, што адбылася ў Берліне. У 1932 і 1933 гадах працавала ў школе КПЗБ у Мінску. У другой палове 1933 года ізноў вярнулася ў



Польшчу і працавала ў Акруговых камітэтах КПЗБ у Беластоку і на Віленшчыне.

Трэба падкрэсліць, што ўвесь час сваю нелегальную партыйную дзейнасць А. Бергман вяла сярод беларускіх сялян у вёсках Заходняй Беларусі.

Ад 1934 па 1945 год знаходзілася ў СССР. У пачатку гэтага перыяду — ад восені 1934 да канца 1935 года — працавала рэдактарам шматтыражнай завадской газеты на фабрыцы абутку ў Мінску, а потым ІІ сакратаром партарганізацыі на заводзе сельскагаспадарчых машын у Гомелі („Гомсельмаш").

У 1945 годзе вярнулася ў Польшчу. Да 1948 года працавала на паліграфічным камбінаце ў Лодзі. У 1948 годзе пераехала ў Варшаву. Працавала ў рэдакцыі часопіса „Жыце партыі".

Ад 1960 года А. Бергман — персанальная пенсіянерка. За сваю партыйную дзейнасць узнагароджана Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы.

На працягу апошніх шаснаццаці гадоў А. Бергман занялася даследчай працай над гісторыяй рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд, а асабліва над гісторыяй беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

Надрукавала яна шмат даследчых артыкулаў у часопісах „З поля валькі" (органе ЦК ПАРП), „Квартальніку гістарычным" (органе ПАН), „Пшэглёндзе гістарычным" (органе Польскага таварыства аматараў гісторыі), „Польскім слоўніку гістарычным", „Рочніках беластоцкіх", Беларускіх навуковых зборніках, „Ніве" і г.д. Артыкулы А. Бергман друкаваліся ў органе Саюза беларускіх пісьменнікаў „Полымі", а таксама ў „Вопросах истории КПСС".

Да найважнейшых прац А. Бергман, якія з'яўляюцца значным укладам у гісторыю беларускага руху, належаць: „Беларускі тыднёвік „Наша ніва" (1906-1915)", „Беларуская сялянска-работніцкая грамада"; „Браніслаў Тарашкевіч і левае бельведэрскае крыло"; „Антон Луцкевіч (біяграфічны эскіз)"; „Нацыянальнае пытанне ў КПЗБ" і шмат іншых.

У апошні час А. Бергман падрыхтавала да друку абшырную манаграфію аб Браніславе Тарашкевічу — як вынік шматгадовых доследаў і карпатлівых пошукаў у польскіх і савецкіх архівах. Раней А. Бергман падрыхтавала да друку польскае выданне „Пісьмаў на волю" В. Харужай і напісала абшырны ўступ да гэтага выдання. Апрацавала таксама сцэнарый выстаўкі, прысвечанай саракагоддзю „Грамады", што экспанавалася ў Акруговым музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. На падставе багатага матэрыялу А. Бергман апрацавала выстаўку, прысвечаную Браніславу Тарашкевічу, экспанаваную ў Беларускім ліцэі ў Бельску Падляшскім, якому прысвечана імя гэтага слаўнага змагара за волю і лепшую долю беларускага народа.

А. Бергман уносіць свой уклад у працу існуючага пры ГП БГКТ навуковага гуртка, членам якога яна з'яўляецца, а таксама ў лекцыйную дзейнасць варшаўскага аддзела БГКТ. У клубе на Сенаторскай А. Бергман пастаянна знаёміць сваіх верных слухачоў з тымі архіўнымі знаходкамі, якія кідаюць новае святло на многія не высветленыя дагэтуль складаныя праблемы заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

**Віктар Швед**

# Каб крамы прыгажэлі

Звоняць тэлефоны. На кожны званок рука прывычна працягваецца да трубкі, і чуваць яе прыемны, упэўнены голас. У перапынках лёгкая ўсмешка знімае з твару выраз клопату і з вуснаў выходзяць словы зусім ужо іншай



афарбоўкі. Пачынае гаварыць аб сабе. Галіна Кірылюк, маладая прыгожая дзяўчына, ужо трэці год з'яўляецца інструктарам тэхнікі і рэкламы гандлю пры бельскім ВСС-е, куды перайшла праз два гады працы ў Рамесным кааператыве забеспячэння і збыту ў Бельску Падляшскім. Яе прыход у ВСС быў тут пераломным момантам у галіне рэкламы. Унутранае і вонкавае афармленне той вялікай колькасці крам, якую аддаў і аддае людзям ВСС у штодзённае карыстанне, — гэта галоўным чынам плады яе фантазіі. Хопіць увайсці ў першую краму, і адразу можна ўбачыць прадуманасць замыслаў, якія былі пераліты ў прыгожыя надпісы, малюнкі ці ў сценгазеты. Але не толькі адны крамы адкрывае ВСС. Ёсць жа і кафэ, і рэстараны. У апошнюю хвіліну задумоўваецца Галіна, як аформіць новую сталовую пры БППБ.

А што ў галіне рэкламы? Сумесна з кіраўніцтвам „Практычнай пані", дзе ВСС мае свой клуб, наладжвае яна розныя паказы. Арганізуе таксама кірмашы тавараў. Нядаўна быў такі кірмаш у Беластоку.

Г. Кірылюк умела спалучае грамадскую працу з прафесіянальнай. Стаўшы старшынёю гуртка ЗМС, яна ажывіла яго дзейнасць, і гурток выйшаў на першае месца ў Бельску. Дзейнасць гэтага гуртка зводзілася да апекі над крамамі і маладымі працаўнікамі, якім, каб дапамагчы ў працы, падбіралі „настаўніка" сярод прадаўшчыц, маючых практыку. Каб усё гэта праходзіла спраўна, арганізоўвалі конкурсы на найлепшага апекуна. Апрача гэтага, Галіна Кірылюк робіць газету, якую рэгулярна адсвяжае новымі матэрыяламі. Змяшчае тут усё — і рэчы пахвальныя і крытычныя.

Галіна Кірылюк і сакратар гарадскога аддзела Фронту адзінства народу. За сваю плённую працу была ўзнагароджана сярэбраным знакам імя Я. Красіцкага. З'яўлялася яна таксама адной з дзесяці асоб Беласточчыны, якіх выбралі дэлегатамі на кангрэс маладзёжных арганізацый у Варшаве.

Памінаючы ўжо ўсю працу, трэба сказаць, што Галіна Кірылюк пасля заканчэння эканамічнага тэхнікума ў Бельску вырашыла прадаўжаць вучобу. З'яўляецца яна цяпер студэнткай першага курса Адміністрацыйнага права ў Беластоку. Працы, як відаць, шмат. Але, калі хацець, то з усім можна справіцца.

**М. Шаховіч**
Фота Я. Цялушэцкага

## Ф·А·Л·

ВЯ




*Застучалі вороны коні на дворэ,*
*зазвінелі золоты кубкі на столе,*
*зазвінелі золоты кубкі на столе.*
*Як учула молода Кася ў коморы*
*ой, упала своёй матулі ў ногі,*
*ой, упала своёй матулі ў ногі:*
*— Ой, не дай, не дай, моя матул*
*хоць р*

Ад Марыі Лубнеўскай, 1914 года нараджэння, і Чаславы Катовіч, 1940 года нараджэння, вёска Ахрэмавічы гм. Заблудаў, запісаў 5 лістапада 1975 г. М. Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

# ВАРШАЎСКІ ВЕЧАР „БЕЛАВЕЖЦАЎ"

Даволі доўгі ўжо час, дзякуючы ініцыятыве і энергіі варшаўскіх дзеячоў нашага таварыства адбываюцца (у асноўным у чацвяргі) дыскусійныя вечары і сустрэчы з цікавымі людзьмі. І так, у сакавіку г.г. з удзелам А. Бергман успаміналі тут аб прагрэсіўнай дзейнасці Грамады і КПЗБ і іх супрацоўніцтве з польскім рэвалюцыйным рухам; генезіс і сучасны стан беларускага школьніцтва ў Польшчы прадставіў Ю. Туронак, а супольна з Ф. Галёнкам пазнаёміў ён прысутных з 55-гадовымі гаспадарчымі і культурнымі дасягненнямі Савецкай Беларусі.

У другую нядзелю красавіка варшаўскія любіцелі беларускай літаратуры мелі магчымасць сустрэцца з трыма вядомымі членамі літаб'яднання „Белавежа".

І так, Ян Чыквін прадставіў сваё апавяданне „Праклятая фармуліроўка", сатыру „Навагодні семінар літаратурнай групы" і некалькі вершаў: „На соннай Нарвы вадзе", „На смерць іспанскага паэта Ф. Г. Лоркі", „Гожая дзяўчына" і інш.

Непрафесіянальны літаратар Юрка Геніюш прачытаў прадстаўленую ў сатырычным святле „Нядзельную сустрэчу літаратурнай арыстакратыі", а ў „Лісце да Віктара Шведа" ў фрывольным, але сімпатычным святле паказаў жыццё нашага ўжо 50-гадовага паэта. У мініятурнай паэме „Афрыка", абапіраючыся ў нейкай ступені на Чыквінаў верш, напісаны на 40-годдзе смерці іспанскага паэта, Геніюш паказаў актуальную яшчэ праблему поўнага вызвалення „Чорнага мацерыка", справе якога аддаў сваё жыццё Патрык Люмумба.

Апошнім з літаратурнага трыо выступіў Сакрат Яновіч, напамінаючы сваім чытачам некалькі апавяданняў са зборніка „Загоны" і кніжкі „Wielkie miasto Białystok".

У другой частцы вечара навуковы супрацоўнік Варшаўскага універсітэта дац. др Флорыян Няўважны даў абшырную і, бадай, трапную характарыстыку творчасці выступаючых на вечары „белавежцаў" на шырокім фоне айчыннай і савецкай беларускай творчасці. Асабліва падкрэсліў ён моцную сувязь іх творчасці з домам і роднай зямлёю, хаця ў кожнага з аўтараў яна выражаецца інакш.

Людзі старэйшага і сярэдняга пакаленняў, якія ўдзельнічалі ў вечары роднай літаратурнай творчасці, уважліва ўслухоўваліся ў галасы аўтараў і ў мелодыю роднай мовы, на якой напісаны іх творы. Усё ж нячаста даводзіцца ім чуць гэтую мову і карыстацца ёю. Літаратура гэта набліжае іх да ідэй і спраў, ад якіх яны ў значнай ступені ўжо адарваныя, а ўсё ж дазваляюць успомніць маладыя, хаця нялёгкія гады.

Інакш падыходзяць да гэтай літаратуры маладыя людзі, якія толькі нядаўна пасяліліся ў сталіцы і вучацца або працуюць тут, даволі часта наведваючы свае родныя мясціны. Вось адзін з нямногіх прадстаўнікоў гэтага маладога пакалення, бадай, расчараваны ўжо і поўны сумненняў. Ён якраз высоўвае ў дыскусіі праблему такога менавіта літаратурнага героя, поўнага расчараванняў, якога, як сцвердзіў, нельга знайсці ў творчасці нашых літаратараў.

Спор, які выклікаў гэты юнак, магчыма, мае шанцы знайсці аб'ектыўную праўду нашых часоў. Дык няхай жа прадаўжаецца ён і пасля аўтарскай сустрэчы.

**Міхал Жанчэўскі**

## Ці ведаеце, што...

*...у гэтым годзе ў нашай краіне сельскагаспадарчыя гурткі атрымаюць 13 000 новых трактараў, 1 600 збожжавых камбайнаў, 1 500 камбайнаў для капання бульбы, 260 камбайнаў для буракоў.*

*...у Беластоцкім ваяводстве дзейнічае 177 бібліятэк і філіялаў, у тым ліку 153 — гэта вясковыя бібліятэкі і філіялы.* *(ця)*

няга з сённяшнім. А сённяшняе ўпісваецца ў Аўгустове сапраўды „гарадскімі" двухпавярховымі мураванымі віламі, прыгожымі дамамі-асабнякамі, абшырнымі хлявамі-фермамі, трактарамі і легкавымі машынамі. У дамах ужо не гонар мець разрозненую мэблю, будзь яна і „на высокі бляск", штораз часцей тут набываюць дарагія і люксусныя камплекты „Пушча", „Ломжа" і іншыя, а сціральныя машыны, халадзільнікі, тэлевізары і іншае сучаснае хатняе абсталяванне назаўсёды ўвайшло ў быт. Зрэшты, не адно дабрабытам у штодзённым жыцці раўняецца Аўгустова на перадавых. Адсюль паходзяць Юрка і Мікалай Busловічы — навуковыя працаўнікі Варшаўскага палітэхнічнага інстытута, Надзея Асіпюк — фармаколаг, Васіль Заброцкі — лекар, Рыгор Анацік — намеснік дырэктара Бельскага беларускага ліцэя, шмат настаўнікаў і спецыялістаў іншых дзялянак гаспадаркі і жыцця нашай краіны. Многа моладзі яшчэ вучыцца. У асноўным сярэднюю адукацыю яна здабывае ў Бельскім беларускім ліцэі.

Сучаснасць трывала ўвайшла і ў тутэйшую гаспадарку. Тут людзі кантрактуюць многа збожжа, бульбы, ільну і іншых раслін, з размахам займаюцца гадоўляй быдла і свіней. Для прыкладу, Барыс Навіцкі — малады селянін — на сваёй 16-гектаровай гаспадарцы гадуе звыш 20 штук быдла, 20 штук свіней, каля 30 штук авечак, мае ўласны трактар з камплектам машын; таксама Сяргей Казак трымае многа жывёлы, вырошчвае высокія ўраджаі; Янка Бусловіч — малады хлопец — гаспадарыць з маткай, трымаюць 16 штук кароў, штогод прадаюць дзяржаве па 20 штук кормнікаў. Зрэшты, у кожнай сярод 130 аўгустоўскіх гаспадарак знойдзецца нешта добрае, бо людзі тут дбайныя і гаспадарлівыя. Узорам жа для ўсіх з'яўляецца гаспадарка Рыгора Анаціка — намесніка дырэктара Бельскага беларускага ліцэя, які і ў ліцэі належыць да перадавых педагогаў і ў сяле з'яўляецца адным з найлепшых гаспадароў. Толькі ў мінулым годзе ён здаў дзяржаве 11 штук быдла, якое пайшло ў экстраклас. Узначальвае вёску солтыс Янка Заброцкі — таксама добры гаспадар, у яго 12 штук быдла, трактар і ўсе машыны, высокія ўраджаі на палях. Я. Заброцкі — гэта адданы справе грамадскі дзеяч, член Экзекутывы Ваяводскага камітэта ПАРП, радны гміннай рады нарадовай, актыўны дзеяч шэрагу сельскагаспадарчых арганізацый. Па яго ініцыятыве аўгустаўчане толькі ў мінулым годзе выканалі грамадскім чынам працы вартасцю ў 70 тыс. зл., а ў бягучым годзе намерваюцца перабудаваць рамізу, збудаваць новую краму, пракласці тратуары ў вёсцы. Яго ўклад у развіццё сяла высока ацэнен грамадствам, ён узнагароджаны Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, Бронзавым Крыжам Заслугі, медалямі.

Так. Старажытнае Аўгустова знайшло сваё пачэснае месца ў нашай сучаснасці і ідзе з ёю крок у крок.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара




Яму 40 год. Жыве ў Бельску Падляшскім. На Беласточчыну прыехаў з Пазнанскага ваяводства. Жанаты. Сыны ва ўзросце 13 і 14 год.

Клічуць яго проста Куба. А і сапраўды называецца Куба Зялінскі. Працуе шафёрам у раённай пажарнай камандзе ў Бельску. Гэты саракагадовы мужчына, вядомы ў прадпрыемстве, як добры працаўнік, а сярод сяброў, як ветлівы калега. Аб ім многа гаворыцца на Бельшчыне, таксама, як аб вопытным пчаляру, таму, што ён і сапраўды добры пчаляр.

Гаспадарка Кубы Зялінскага размяшчаецца ў трох раёнах: у Кнарыдах, Горнаве і ў Хранібарах (калонія Быстрае). У яго пасецы 150 вулляў. Цяжка прымірыць прафесіянальную працу з так агромным мерапрыемствам, як вядзенне пасекі з 150 вуллямі. Ён аднак не наракае. Наадварот, на ўспамін аб пчолах і аб пасецы, яго твар робіцца светлым, задаволеным.

— Пчалярства — гэта маё гарачае пачуццё, — гаворыць Куба Зялінскі. — Таму яму якраз прысвячаю свае вольныя хвіліны. Дзе ж можна знайсці лепшае задавальненне, як не на пасецы? Араматныя пахі, бзыканне пчол і вольны вецярок — гэта ж сапраўдная паэзія!

А другая справа — гэта грашовая карысць. У мінулым годзе атрымаў ён у сярэднім 20 кг мёду з аднаго вулея. Калі памножым на 150, дык атрымаем 3.000 кг. Дзяржава плаціць пчалярам па 60-70 зл. за 1 кг.

— Скажыце, калі ласка, дзе вы навучыліся гэтай прафесіі?

— У маіх родных мясцінах пчалярства стаіць на высокім узроўні. Многа я наслухаўся ад нашых пчаляроў аб той прафесіі і аб карысцях, якія яна прыносіць. Пачаў цікавіцца, чытаць прафесіянальныя кніжкі. Пасля, для практыкі, купіў некалькі вулляў...

— А як дабіліся такіх поспехаў у сваёй гаспадарцы?

— У 1971 годзе прадпрыемства „Лес" прадавала вуллі. Я і купіў 70 штук. А пасля кожны год прыбаўлялася.

— Вашы планы на будучыню?

— Думаю павялічыць сваю пасеку да 200 вулляў, на больш час не дазволіць. І хоць ёсць у мяне ўсе патрэбныя прылады, аўтамабіль „Люблін" і „Тарпан", не змагу весці большай колькасці.

Развітваемся.

— А не забудзьце завітаць да мяне летам на мёд, — крычыць Куба наўздагон.

**Ул. Сідарук**

Імпартгумар

# Важкі аргумент

Толькі я сеў за чарговую байку, як на стале перада мною нечакана з'явілася маленькая Мышка.

— Стой! — дрыжачым ад гневу голасам піснула яна. — Зноў ты ўзяўся пісаць паклёп!

— Я?

— Менавіта ты! Хоць, на жаль, ты не адзінокі! Усе вы, — вочы мышкі бліснулі халоднай пагардай, — байкапісцы, прыпісваеце нам, жывёліне, гадкія справы і характары, уласцівыя вам самім!

— Ах ты вось аб чым! Гм... Гэта... бачыш... вобразнае, так сказаць, мысленне... пошукі новых форм...

— Новыя формы? Ад Эзопа да цябе? Ха-ха-ха... Перастань здзіўляць. Адкажы па сутнасці: чаму тысячы год вы надзяляеце нас, жывёлін, у сваіх байках ілжывасцю і крывадушнасцю, дурнотай і подласцю, хітрасцю і каварствам?...

— А чаго гэта ты, уласна, так распішчалася? — разззлаваўся я. — Хто ты сама? Звычайны бязмоўны грызун-эгаіст! Як ты можаш нават параўноўваць сябе з людзьмі? Мы разумныя, красамоўныя, надораны высакароднай душой...

— Дапусцім, — піснула мая субяседніца. — Але дзе ж у такім выпадку ваша смеласць? Чаму вам не хапае элементарнай храбрасці выкажыць адзін другому ў вочы ўсё, што вы думаеце? Чаму вы ўжываеце ўсялякія там алегорыі, прыкрываецеся намі, размаўляеце на гэтай сваёй эзопавай мове? Чаму?

На самай справе, чаму? Як вытлумачыць ёй усё гэта? У пошуках важкага аргумента позірк мой спыніўся на тоўстай анталогіі вялікіх байкапісцаў. Я ўзяў пераплеценых у адзін том Эзопа, Лафантэна і Крылова і трахнуў Мыш класікамі па галаве.

Потым я кінуў яе спаўшаму пад сталом Кату. Ён успомніў крылоўскага Ваську і, мурлыкаючы, ляніва выканаў свой абавязак.

Цікава, ці зразумела мяне Мыш?

**Фёдар Шашун**
*(Югаславія)*



*— Эй, Пятрусь! Ужо перапынак на снеданне закончыўся!*

# НІЎКА

### З ЖЫЦЦЯ ВЫШЭЙШЫХ СФЕР



*— Яго вялікасць чакае.*

### АПРАЎДАЎСЯ

Міколка вярнуўся са школы дадому. Глянула маці, а яго новая шапка ўся брудам перапэцкана.

— Што гэта?

— Ды гэта хлопцы...

— Што хлопцы?

— Схапілі ў мяне шапку і сталі ў футбол гуляць...

— А ты ж дзе быў?

— У варотах стаяў.

### КАСТУСЬ У ТЭАТРЫ

Парфен, выходзячы з тэатра, пытае ў Кастуся:

— Як табе ўдалося разгледзець што-колечы на сцэне? Перад табой сядзела такая вялізная пані!

— Гэта было нятрудна: у яе было праколата вуха.

*— Чаго ў спорце не бывае!*



**МІНІВЕРШЫ**

### МУХА

Аднойчы з Мухі
зрабілі Слана.
Цяпер у начальніках
важных яна.

*А. Часоўнікаў*

...Пакарыў жанчыну. Цяпер яна яму варыць і мые.

...Яго званне: Кавалер Марыі Іванаўны.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Двое англічан спрачаюцца аб паходжанні чалавека.

— Самае галоўнае для мяне тое, што я чалавек. І мне абсалютна абыякава, ці быў мой прадзядуля малпай.

— Так, але як было вашай прабабулі?

* * *

„Дружа, дай цыгарэту, разумееш, няма нідзе паблізу крамы, каб купіць. Вось табе 10 стацінак", — так хітраваў кожны раз адзін габравец. Прахожыя, зразумела, давалі яму цыгарэту і не бралі грошай.

Але аднойчы на сафійскім вакзале чалавек, які даў яму цыгарэту, спакойна забраў 10 стацінак. Здзіўлены хітрун паспеў толькі запытаць:

— Вы адкуль?

— З Габрава, — дастойна адказаў чалавек.



**ГУМАР З**

### БУДЗЬ І ТЫ ЗАДАВОЛЕНЫ

Адзін паэт у сваіх вершах расхваліў багацея. Той быў вельмі задаволены. Ён сказаў паэту:

— Друг, грошай у мяне няма, а вось зерня многа. Прыходзь заўтра.

Паэт прыйшоў на наступны дзень. Багацей запытаўся:

— Чаго ты прыйшоў?

— А ты казаў, што дасі мне зерня, вось я і прыйшоў.

Багацей сказаў тады:

Ты парадаваў мяне словамі, дык будзь задаволены сам маімі словамі.

### У МУЗЕІ



*— Мама, ці доўга ён яшчэ будзе выцягваць стрэмку з нагі?*

### ВЫКАНАЎ

Доктар Знахарук усміхнуўся, убачыўшы хворага:

— Вы сёння выглядаеце лепш.

— Так. Я выканаў указанні на этыкетцы бутэлькі вашага лякарства.

— Якія менавіта?

— Бутэльку трымаць шчыльна закупоранай.

### ВАДЗІЦЕЛІ

Двое п'яных едуць на машыне.

— Калі мы пераедзем мост, паварачвай направа.

— Як? Ці ж не ты вядзеш машыну?

### ПАРАІЎ

Дама скардзіцца адвакату на мужа, якога ненавідзіць.

— Дык развядзіцеся! — кажа адвакат.

— Ну, не! — адказвае дама. — Я мучылася з-за яго дваццаць год, а цяпер вы прапануеце мне яго ашчасліўціць!



*Без слоў.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ірэны Несцярук з Дубіч Царкоўных, Валі Наумюк і Гені Нічыпарук з Клейнік, Марыі Петрышук і Раісы Лейчук з Тыневіч Вялікіх, Надзеі Нікіцюк са Ступнік, Галіны Лук'янюк і Ірэны Касцючук з Кожына, Яўгеніі Анішчук, Янкі Апалінскага, Юркі Якімюка, Лявона Андрэюка з Зубава, Зінаіды Івашюк і Уладзіміра Парфенюка з Трашчотак змяшчаем песню:*

## Staruszek świat

słowa: Jerzy Kleyny
muzyka: Wojciech Trzciński
śpiewa: Anna Jantar

Nasz zalatany świat
Z siedemdziesięciu lat,
Niewiele czasu sam
Dla siebie mam...
A po zamknięciu bram
Po dyskotekach gra,
Bo —
młody rytm,
Beat, nie beat,
Porywa go...
Skąd on to zna?
Co wieczór to
Przynosi z dnia!

Staruszek świat
Nie wygląda na tyle lat,
Staruszek świat,
Jeszcze w klapie by nosił kwiat...
Staruszek świat,
Lubi wspomnieć niemodny czas,
Choć spieszno mu,
Choć mu pilno do gwiazd!

Nasz zwariowany świat
Z siedemdziesięciu lat,
Zatańczy walca raz
Na jakiś czas...
I pójdzie z rąk do rąk,
Za neonowy krąg —
I —
Raz, dwa, trzy
Raz, dwa, trzy,
Pomiesza dni,
Pomyli sny... —
Staruszek świat,
Nie taki zły!

### ЗАГВОЗДКА

Задрыпанцы гміна зафундавала велізарную пажарную машыну. Жыхары жыва абмяркоўваюць гэту падзею:

— Уяві, колькі трэба пажараў, каб апраўдаць такую пакупку.



# Курёзы

### ГОРКІ ЖАРТ

Злучаныя Штаты Амерыкі рыхтуюцца ў ліпені гэтага года ўрачыста адзначыць двухсотгоддзе сваёй незалежнасці. У плане падрыхтоўкі да гэтага свята ёсць і такое грандыёзнае мерапрыемства. Праз увесь амерыканскі кантынент будзе працягнуты людскі ланцуг. Людзі будуць стаяць, узяўшыся за рукі. Даўжыня гэтага жывога ланцуга працягненца на 4.500 кіламетраў. Для гэтага мерапрыемства спатрэбіцца каля чатырох мільёнаў чалавек.

Вострыя на язык амерыканцы жартуюць з гэтай нагоды. Яны гавораць, што для таго жывога „ланцужка" не варта будзе адрываць ад работы працуючых суайчыннікаў. Для гэтага хопіць з лішкам і беспрацоўных, якіх налічваецца ў краіне каля васьмі мільёнаў.

Дужа горкі жарт.

### „МУДРЭЦ З МУДРАЦОЎ"...

Такі „тытул" небескарысліва прысвоіў сабе венскі масажыст Іаган Херстэр. Даўшы зразумець, што ён жыве на свеце не адно стагоддзе і шмат чаго пабачыў на сваіх вяках, „мудрэц" пачаў шантажыраваць нейкага Алоіза Рэша. Херстэр сцвярджаў, што быў сведкам злачынства Рэша ў „папярэднім жыцці". „Тады ён задушыў свайго брата ў тыбецкім манастыры, — містыфікаваў ён 82-гадовага багацея. — А было гэта 640 гадоў назад. Бог табе не даруе..." Рэш упрошваў Херстэра дапамагчы яму „загладзіць грэх". Херстэр „даkладна" падлічыў, што гэта будзе каштаваць „забойцу" 438.418 доляраў і два цэнты.



Між намі

Прызнавай свае памылкі. Але дробныя.